# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ

**№97**

**лістапад 2006**

**НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ**

У нумары: Лукашэнка прызнаўся, што выбары фальшавалі.
Чарговы выбарчы маразм.
Куды дзеліся гомельскія грошы?
Яшчэ адна ахвяра маскалёў.

## БЯСПРАЎНЫЯ БЕЛАРУСЫ.

Сто апошніх гадоў наш народ пражыў пакутліва і шмат у чым бясплённа. Найперш тут віна той каланіяльнай сістэмы, зь якой мы ніяк не могам выбрацца. То год дзьвесьце тут муцілі жыццё палякі, то дзьвесьце год патрачана на расейскую імперыю. Ніяк не даюць «добрыя» суседзі нашаму народу самому наладзіць сваё жыццё, неяк арганізавацца, выпрастацца.

Кепска жывом не толькі таму, што былі войны- яны не мінулі, бадай, ніводнай краіны ў Еўропе-, а таму, што німа праўды ў Беларусі. І словы, якія ўжывае наша ўлада, не- нашыя, а з прывычнага савецкага лексікону, які ладная частка нашых людзей не пасьпела забыць.

От абвешчаныя чарговыя выбары.

Можна не сумнявацца, што гэта будзе зьдзек з выбараў.

Пад такія выбары падпраўлена выбарчае заканадаўства, па якому любы вылучаны ў кандыдаты суб"ект ці аб"ект- то бо жывая істота ці статуй- будзе гарантава- на выбраны.

На тыя выбары кандыдатаў у дэпутаты сабе падбіраў сп. Міхайла Доўгі, як ён казаў, «тых, зь якімі мне будзе лёгка работаць».

Якія яны работнікі мы пераканаліся. Ні палцам ні бедным ніхто зь іх не паварушыў дзеля ладкавання Дубровы, на карысьць дуброўцаў.

Гэтыя ж лёгкаработныя дэпутаты, лялькі сп. Доўгага, далі крумкачу з райкама парціі сп. Кукару Валодзю выкруціць сабе ручкі і псеўдазаконна паставіць на ягонае мейсца сп. Крывалапа Анатоля, які будзе трымацца пасады, покі будзе служыць камарылы з Шацілак.

Нятрэба сумнявацца, што лялька сп. Крывалап Анатоль падбярэ сабе сваіх лялек і лялечны тэатар, батлейка, ізноў паўторыцьмецца.

Лялечная ўлада з лялечнымі вынікамі.

Багата дуброўцаў не могуць выказацца без мацерных словаў пра вынікі дзейнасьці і дэпутатаў і ўлады ў цэлым. Багата каму ўлада папросту нецікавая. Але ж яна іўе і ўплывае на наша жыццё!

Выбары сталі нецікавымі, бо перасталі быць выбарамі, а ізноў ператварыліся ў крыўлянне ўлады.

## КВІТНЕЮЧАЯ БЕЛАРУСЬ.

Тое, што Беларусь квітнее і ясьнне мы ведаем з сродкаў масавае прапаганды, ад школьных настаўнікаў і з інфармацыі Шацілкаўскага райсавета, што час ад часу вывешваюць на дошках абвестак. Як яна расквітнела мы пабачым на самым канцы году, як знацьмем, колькі нашых беларусаў пайшлі ў лепшы сьвет і колькі нарадзіліся на гэты сьвет.

А пакуль што задаволімся прамежкавай ацэнкай квітнення.

Нядаўна бацька ўсіх беларускіх дзяцей, Прэзідэнт Нацыянальнага Алімппійскага камітэту Лукашэнка выдаў распараджэнне, што органы апекі маюць права забіраць дзяцей у негадзяшчых бацькоў без суду. Ну, канфіскаваць ці рэквізаваць тых дзяцей.

Відаць у квітнеючай Беларусі ад добрага жыцця стала столькі бяздольных дзяцей, што іх праз суд стала складана адбіраць, таму правасуддзе адкінулі прэч і пастанавілі адбіраць іх пазасудова.

І што б ні зьвягала прапаганда, але наяўнасьць вялікай колькасьці неўладкаваных сем"яў і, адпаведна, няшчасных дзяцей, ёсьць найлепшым паказьнікам сапраўднай ступені заможнасьці нашага грамадзтва.

Ці не ад гэтага росквіту наша краіна займае мо трэцяе месца ў сьвеце па колькасьці самагубстваў на 10.000 чалавек насельніцтва?

Ад росквіту, ад росквіту, ад яго аднаго дзесяткі тысяч беларусаў кінуліся на заробкі ў Расею, дзе, часта цаною ўласнага жыцця, працуюць на чужы росквіт, а не на свой.

Зрэшты, заўсёды раячыся з кашальком, просты працоўны бачыць нішчымную ўбогую глыбіню нашага росквіту.

Толькі тады расквітнее Беларусь, як дыктатара пазбавіцца.

Але ж як жыць нам без яго? Багата каму холадна без нашыйніка.

# УЛАДА ПРЫЗНАЕЦЦА, ШТО ПАДМАНЮЕ НА ВЫБАРАХ.

На чарговай прапагандысцкай сустрэчы -гэтым разам з украінскімі журналістамі- несамавіты са Шклова прагаварыўся, што апошнія прэзідэнцкія выбары былі сфальшаваныя. Ён мог бы і не расказваць гэтага, бо пазірнуўшы на склад выбарчых камісій і бачачы, як яны шчыруюць на даверанай ім тэрыторыі, а таксама на саму хітрую працэдуру выбараў адразу здагадаешся, што ўсе выбары сьмярдзяць падманам.

Ну, калі цябе і тваіх сатрапаў так любіць народ, то ці варта фальшаваць?

Лука- гэта абсалютысцкі правіцель. Сваю пасаду ён займае незаконна. Ягоныя загады юрыдычна не маюць законнай сілы.Адзіным прыкрыццём, што неяк - для прапаганды, вядома-, маскуе ягонае беззаконнае існаванне ёсьць галасавальнае прыкрыццё. Такой посьцілкі павінна быць багата: нават працантаў 60- гэта замала.

От калі ён мецьме 98%, то тады скажа, што народ яго падтрымлюе.

Але эпоха 98працэнтных выбараў сышла. Дасягнуць яе можна толькі проста махінацыямі і прыпіскамі. Гэтым і займаюцца плебейскія халуйскія бязграматныя выбарчыя камісіі, якімі лёгка камандуваць і якія лёгка падпужаць рознымі карамі, чашчэй пагрозаю прагнаць з працы.

Прызнанне дыктатара паказвае ягоную поўную распусту і расьпаразанасьць. Багата хто хітрэйшы на ягоным месцы трымаў бы язык за зубамі, бо за такія прызнанні рана ці позна трэба будзе пасядзець на лаве падсудных.

Нядаўна прызнанне -заўважым, таемнае- венгерскага прэм"ера, пра тое, што ўрад хлусіў народу наконт эканамічных посьпехаў, паставіла на вушы ўсю Венгрыю.

У нас жа ні адна душа не затрымцела ад такога бессаромнага і цынічнага прызнання. Па сутнасьці дыктатаравы словы значаць, што выбары- гэта фікцыя. Колькі б ты туды ні тупаў, як бы ні кідаў бюлетэнь- голас твой гаўно, бо нікому ён не трэба. Камісіі пішуць па загаду.

А што ж Цэнтральная Выбарчая Камісія, якая зацьвярджае «чэсныяы» выбары і якую так бязьлітасна падвёў дыктатар? Гэтым хоць плюй у вочы, яны як чырылі патрэбнае, так і начыраць.

Так што калі вы схадзілі на «выбары», то марна стапталі падборы.

Што яшчэ вынікае з цынічнага прызнання дыктатара? А тое, што ўсе, хто пратэставаў супраць фальшавання выбараў і быў асуджаны за гэта- той быў асуджаны незаконна і павінен быць неадкладна апраўданы і вызвалены. Унь чэзнуць у ссылцы Павел Севярынец і Мікола Статкевіч, Андрэй Клімаў. Каторы тыдзень трымае галадоўку Аляксандр Казулін. Іх беззаконна засудзілі за пратэст супраць падману, абвінаваціўшы ў хуліганстве. Насамрэч у нас начальнік дзяржавы хуліган і хуліганы ягоныя сілавікі- «касманаўты».

# ТАКТЫКА САЛЯМІ.

(Салямі- высушаная на паветры каўбаса з ялавічыны ці сьвінога рыжага мяса з прыправамі)

А тактыка салямі палягае ў паступовым, кавалачак за кавалачкам- як наразаюць тоненька салямі- дасягненнні сваёй мэты. От, азьмем, нашага дыктатара. Кажа ён сваім халуям не падымаць цэн адразу, а патрошку, па 2-3 працанты ў месяц, каб народу не балюча было, анестэзіёлаг шклоўскі, от гэта і ёсьць тактыка смачнае салямі. Глядзіш, а пад канец году патрэбныя 25-30% ійе.

Некалі бясплатная медыцына і адукацыя тактыкаю салямі сталі фактычна платнымі. І не толькі таму, што багата дзе ў ВНУ трэба плаціць, а і ў школі. Скажам, наймае чалавек вучыцеля па арыфметыцы ці натаўскаму чытанню для свайго сына ці сваёй дачкі і плоціць таму навучыцелю. Гэта і ёсьць форма платнай адукацыі.

Далей- мудрэй. Зараз навучальным установам, якія мы трымаем праз буджэт з нашае кішэні, заўважым, спушчаны план заробку грошай для гэнага буджэту. Падатак.

От які-небудзь дзіцячы садок муся зарабіць для дзяржавы два мільёны рублёў, якая-небудзь кабульская школа тысяч пад чатырыста, а прамфінплан для гарадзкіх школ разоў у дзесяць больш.

Дык мо пара дзяржаве падумаць, як разам з дыпломам навучыцеля арыфметыкі, натаўскага чытання ці закону Лукі даваць навучыцялём яшчэ дыплом тынкоўшчыцы, муляра, плітачніка, стрыпцізёркі ў найт-клабе ці ліцэнзію на занятак секс індустрыяй і адпраўляць на заробкі ў Залатую Арду ці шчэ куды.

Раней камунякі важна казалі пра «заваёвы Кастрычніка».

Гэны, што матляе то свастыкай, то сярпом-молатам, тактыкаю салямі зжэр усе тыя, сапраўды, важныя сацыяльныя заваёвы. Прыдзе час, мо і да куранёў з зямлянкамі давядзе. Тады капцы!

## Der Feind hört mit. /Вораг не дрэмле!/

Тыя з нас, хто колісь вучыўся ў германскіх школах пры нябожчыку фюрэру добра памятае гэты лозунг-папярэджанне. Так, вораг нядрэмны, як той Кербер у Аідзе. Цяперака фюрэр памяняўся, але вораг застаўся. Гэта ўласны народ. Вядома, хто найпершы вораг у кажнага фюрэра: уласны народ. От чаму наш высокаякасны народны баявы лісток раіць народу трымаць язык за зубамі. Ці болей разяўляць зяпу. Як хто лічыць патрэбным.

Справа ў тым, што ў найлепшых гестапаўска-кагэбісцкіх норавах улада распарадзілася з 20 чысла гэтага месяца лістапада, каб кажын начальнік і кажын актывіст-дворнік ці сацыяльны работнік кожын дзень! паведамляў сваім начальнікам а 13 гадзіне -(трынаццатай!, халера ясная, якой жа яшчэ!)- ўсё, што ён падслухае ў размовах сваіх работнікаў.

**Усе начальнікі- стукачы.**

Мала таго, дык штомесяц на стол старшаму начальніку трэба класьці абагулены данос.

У наш лісток такога распараджэння не прысылалі, бо мы нашыйніка-начальніка не маем. Таму невядома, як будуць групавацца падрыўныя выказванні: па зьмесьце ці па прозьвішчах ці па шкоднасьці.

Калі ты не працуеш і пеньсіянэр, не бойся, абслужаць і цябе: на цябе штодня мусіць даносіць твая сацыяльная работніца.

**Сацыяльныя работніцы-стукачы.**

Людзі яны занятыя і ім можна даносіць ад 13 да 15 гадзін. Усе пад каўпаком.

Бачыце, як узрасла цікавасьць гестапа да народнай думкі.

Усіх не перасадзіш. Таму калі вы не хочаце жыць у канцлагеры СС сьмела ў прысутнасьці начальніка ці начальніцы кажыце ўсё, што вы думаеце пра расквітнелае жыццё- начальства нельга падманьваць.

Той, хто не баіцца канцлагера СС той можа стуліцца і маўчаць, ці падвучыцца гаўкаць правільна: падручнік-»Советская Белоруссія».
А сур”ёзна кажучы- улада хоча напужаць народ, каб і далей мучыць яго атхлаю дыктатуры.

**Памятай: а 13й гадзіне у Беларусі- агульнанацыянальны час даносаў.**

Дзівосныя справы Твае, Госпадзе! Зьвягаючы пра Сталіна рэжым амбівалетна кахае Гітлера. Так было заўжды. Пасьля перамогі над Гітлерам савецкія камунякі ў нямецкіх гарадох пакінулі гітлераўскіх старэйшых па вуліцы, па квартале, каб мець даносчыкаў. Цікавая такая дэталь: гітлераўскае гестапа мела аднаго даносчыка на 3.500 жыхароў, а гэдээраўскае- называлася Штазі-аднаго даносчыка на 320 жыхароў. У 10 разоў болей!
Штат шпікаў і шпегаў быў такі: Гестапа- 20.000, Штазі -53.000

Здаецца, клептаманны рэжым у Беларусі пераплюнуў абодва
А вы думаеце гэта яны так сабе Фэльку Дзяржынскага ў Менск прывалаклі?

Калі хочаш данесьці, а сілы няма, данясі на даношчыка, гэта цікава. Звані бясплатна: **2-21-77.**

*Наш слоўнік:* сінонімы слова «даносчык»- інфарматар, сексот, стукач, сікафант, шпег.

## Новы начальнік «Беларусьфільму»

Новым начальнікам гэтага кінаэргастэрыю стаў стары шапялявы расейскі агент У. Замяталін, палкоўнік. Гэта ён выпаўз на экран тэлебачання ў 1996 годзе і, шапялявячы беларускія словы, прагергетаў для вучняў тэмы сачыненняў. Маскаль-пярдун пастаўлены, каб душыць усё наша беларускае.

Капаючы траншэю пад сілавы кабель да канторы землякопы пашкодзілі тэлефонныя кабелі і некалькі дзён частка Дубровы не магла нікуды пазваніць.

**Сьмерць ад Расеі.**

Маладзенькі хлопец Коля Федарчук, сірата па маці, кінуў Шацілкаўскую вучэльню ды паехаў разам з хаўрусьнікамі на заробкі ў Маскву.

Тамака, не надта асьцярожны ў абыходжанні беларускі юнак натрапіў на расейскі зброд, які і забіў яго.
Пахаваны ў Зарэччы.

**Трагедыя на дарозе.**

Аляксандр Анісавец, трахтарыст, вяртаўся поначы з працы. Быў густы туман. Пераходзячы шашу мужчына неабачліва спыніўся запаліць цыгарэту. А тут імчала легка-вушка з Менску, мо пад 150 вёрст у гадзіну. Загінуў чала-век, асірацелі трое дзетак.

Пайшоў ад нас
**Федарчук Мікалай Мікалаеў.**
Спачын ягонай душы.

Пайшоў ад нас гароўнік
**Анісавец Аляксандр Віктараў**
Хай яму зямля будзе пухам.
Глыбока спачуваем удаве і дзеткам.

Друкарня імя І. Масьціцкага нак 100 ас

## ХАТНЯЯ ЗАПРАЎКА.

З Кабульшчыны расказваюць, што на арцельны нарад уранні завітаў нейкі мужчына і абвінаваціў кіраўніцтва арцелі ў фальшаванні паліва. Мужчына запатрабаваў ад арцелі кампенсацыі на рамонт дызельнага рухавіка, які паламаўся з-за няякаснай саляркі, якую ён набываў у тамтэйшых механізатараў. У пацьверджанне сваіх словаў пацярпелы прад"явіў сьпіс людзей у якіх ён набываў паліва, даты і колькасьць.

Такога ніхто не чакаў. Што салярку крадуць- гэта нармальна, гэта вядома ўсім. Але фальшаваць прадукт! Ганіць гаспадарку!!

Разумны кіраўнік тамтэйшай арцелі сп. Бусел Віктар разьюшыўся. Сьпярша ён энергічнымі словамі папракнуў механізатараў у нядобрасумленнасьці, потым абвінаваціў іх у непамернай хцівасьці і прагнасьці. Пры гэтым ён паставіў у прыклад дуброўскіх механізатараў, якія прадаюць салярку на пару тысяч танней за кабулян. Пасьля гэтага ён загадаў неадкладна зачыніць запраўку і адправіў ўсіх, строга загадаўшы зрабіць прызначаную кажнаму працу. На пытанне механізатараў «А дзе ж заправіцца?» мудры сп. Віктар лаканічна падказаў «Дома».

Усё скончылася ўдала: кажын трахтарыст пачуваўся прысаромленым, таму ўсе прыехалі на працу на сэканомленай карасіні.

Што сказаць на гэта?

Пакуль у нас рабскі сацыялізм, усё можна лічыць сваім, а, значыць валодаць і карыстацца, перадаваць у карыстанне іншым. Не трэба называць гэта кражай. Такія ў нас маёмасныя адносіны. Лад такі ў нас, клептаманаўскі.

## ГОМЕЛЬЭНЕРГІЧНЫЯ ГРОШЫ

Папутай дуброўскіх хлопцаў, як пайшлі ў гару іхнія справы, на якія новыя даляравыя вяршыні заробкаў яны ўспаўзьлі і хлопцы толькі безнадзейна махаюць рукамі, маўляй гаўно ўсё, не пытайся. Пры гэтым яны часам прыводзяць прыклады нейкіх іншых аналагічных гаспадарак, дзе плацяць шчадрэй.

Нізкія заробкі дуброўцаў заўважны і ў Гомелі-энерзе. Нейк тамтэйшы іхні іньсьпектар па сельскіх пытаннях размаўляў з тутэйшым упраўляючым сп. Уладзімірам Семянчуком і далікатна папярэджваў яго пра магчымыя наступствы моцнай недаплаты. »Што ты сабе думаеш?», казаў ён. «У цябе ж праз пяць год не будзе каму працаваць. Хто на такія грошы пражыве? Мы табе столькі грошай далі... Дзе яны?»

На такую рэпліку ўпраўляючы задуменна маўчаў.

Памятаеце, на прэзідэнцкіх выбарах сп. Аляксандр Казулін задаваў такое ж непрыстойнае пытанне беларускаму дыктатару «Гдзе дзеньгі, Аляксандр?» Казуліна за такое налызнае пытанне адправілі на нары, даўшы яму пяць год з запасам. 66 (шэсьдзесят шэсьць!) месяцаў!

Калі б мы чашчэй задавалі такія і іншыя пытанні ўладзе, яна мусіла б адказваць і мы ведалі б болей.

А так дыктатар адказаў турмою не па сілах адважнаму Казуліну.

То мо час і дуброўцам усьлед за сьмелым іньсьпектарам папытаць пра большыя грошы за сваю працу для сваіх сем"яў. Улада мосна баіцца такіх пытанняў. А чаму б тое? Пытанне ж законнае...

## НЕ ДУЖА ВЯСЁЛЫ ЮБІЛЕЙ

Сто дваццаць гадоў споўнілася тутэйшай Дуброўскай школе.(Гэта раней яна была школа, а цяперака высокапасадныя абібокі вялелі ўсе школы йменаваць установамі адукацыі ды шчэ з нейкі там прыхвасьцем-дадаткам...) Узрост паважны і нагода як мае быць. Настаўнікі парупіліся, каб узнавіць гісторыю школы, ратуючы дакуманты і фатаздымкі, якія зьбіралі па ўсіх вёсках. Заўважым, што абыякавасьць і пагарда да ўласнай гісторыі вельмі выразна відаць, калі возьмеш канкрэтную ўстанову. Багата чаго страчана. Гісторыю трэба зьбіраць, захоўваць і перадаваць пакаленням. Але сьвята было ды, кажуць, выйшла маркотным.

Не, зьнешне ўсё было даволі прыстойна.

Але школа- гэта найперш дзеці. От бальшыня дзяцей і не адчула, што гэта значная падзея. Пераважна сьвята вярцелася вакол вертыкальных работнікаў з Шацілак, якіх запрасілі на сьвяткаванне і канцэрт . Была раздача сланоў - паперак, іменаваных «граматамі». Быў сякі-такі пачастунак.

Але калі так пойдуць справы ў краіне, то Дуброўская школа асуджана калі не на зьнікненне, то на гібенне.

Дзетак штогод менее, веды, кажуць, не тыя.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў Дуброве было мо двароў з 20. Зараз гэта кангламерат вуліц, насельніцтва і безнадзейнасьці, як бы ні пнуліся падвесяліць народ трубадуры росквіту. 120 год праз войны і нягоды праіснавала школа. Праз руйнаванне ўраганам у 1969 г. Ды ці вытрывае яна дыктатараў мір? Ці дажыве да чарговага юбілею школа ў Дуброві?